№ 31. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

**Беларуская Віленская часопісь**

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 31 (123). Год II. Вільня, 17 красавіка 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# Вайна замірае.

## 16 красавіка.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На поўначы ад дарогі Аррас-Камбрэ нашы войскі адкінулі ворагоў назад. Узяты 475 палонных, 15 кулемётаў і 22 гарматы.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Сягоньня раніцай у Шампані на шырокім фронці узнялася пяхотная бітва.

---

Ворагі утрацілі 11 самалётаў, у тым ліку перэважываюць машыны найнавейшай конструкціі.

**Усходні тэатр:**

Без бітв.

---

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Камітэт работнікоў і салдатоў пасьля доўгай нарады прыняў рэзолюцію с 6 пунктоў, у каторых тлумачыць свае адносіны да тымчасоваго ураду ва ўсіх справах унутрэнай і заграпічнай палітыкі.

ШТОКГОЛЬМ. Пяцера кіраўнікоў соцыялістычнай групы Леніна разам з Леніным перад выездам у Пецярбург адбылі доўгую нараду з галавамі швэдзкай соцыялістычнай партіі. Ленін сказаў, што ён стаіць наперадзі энэргічнай акціі за мір, аб чым ён ужо радзіўся с соцыялістамі Швэйцарыі, Франціі і Нямеччыны. Толькі з Англіі дагэтуль німа адказу. Лэнін сказаў, што ён мае надзею, што праз два тыдні ён прыедзе ізноў у Штокгольм, як галава расейскай мірнай дэлегаціі дзеля практычнай падгатоўкі міжнароднай мірнай конфэрэнціі.

ШТОКГОЛЬМ. У Пецярбурзі апублікован спіс членоў спаўніцельнаго Камітэту, зложэнаго с 44 асоб. Маршалак камітэту — Чхэідзэ, яго намесьнік—Керэнскій.

ШТОКГОЛЬМ. Умяркаваная расейская соцыял - дэмократычная «Рабочая Газэта» пішэ:

«Усё ямчэй чуваць кліч: «Вон тымчасовае правіцельство!» Ужо цяпер установчы сэйм выстаўляюць за ворага народу. Падобную пропаганду вядуць нават члены камітэту работнікоў і салдатоў. Атмосфэра—дужа напружэная, і ў кожны момэнт може быць узрыў».

МІНСК. 20 красавіка тут адбудзецца вялікая нарада ўсіх расейскіх армій, каб выясьніць адносіны між камітэтам работнікоў і салдатоў і тымчасовым правіцельствам. Апрыч таго будуць разгледаць пытаньне аб сазыве установчаго сходу, аб форме упраўленьня гасударствам і аб вайне і міры.

ПЕЦЯРБУРГ. Чхэідзэ організаваў так-званую «чырвоную гвардію», якая спаўняе паліцейскую службу ў Пецярбурзі.

«Нов. Вр.» пішэ, што Керэнскій арэштаваў генэрала Рэннэнкампфа, начальніка дэпартамэнту паліціі Васільева і палкоўнікоў ахраны Тюфлева (?) і Гродзенко (?), ды генэрала Зэйна.

БУДАПЭШТ. У палаці паноў граф Тіша сказаў:

«Ніхто ня думае мешацца да ўнутрэных спраў расейскай дзержавы».

Палата згодна ўсемі галасамі прыняла заяву гр. Тішы да свайго ведама.

БЭРЛІН. Офіцыоз соцыялістоў «Vorwärts» пішэ:

На адбытай на Вялікдзень конфэрэнціі англіцкай незалежнай работніцкай партіі у Лізе (Эдінбург) прынята гэткая рэзолюція: «С поўнай верай, што прадоўжэньне гэтаго страшэннаго і праступнаго душэгубства не мае ні карысьці ні мэты і што яно суліць вялікую небаспеку для баспечнасьці і дабрабыту нашаго народу, конфэрэнція клічэ правіцельство разам с саюзьнікамі пачаць перэгаворы аб пачэсным і на доўгіе часы замірэньні».

---

## Нямецкі офіцыоз аб заяве Расеі.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). 14.IV. Газэта Канцлера пішэ:

«Тымчасовы урад у Пецярбурзі 10 красавіка апублікаваў заяву, згодлівую у сваіх асноўных пунктах с чысьленымі заявамі Нямеччыны і яе саюзьнікоў. Гэтак абедзьве стороны не дабіваюцца нічога, апрыч забаспечэньня свайго быту, чэсьці і магчымасьці развіцьця сваіх народаў. Цэнтральные дзержавы ня хочуць і не заінтэрэсованы ў тым, каб расейскі народ выйшоў з вайны прыніжэны, або устрэсены ў асновах свайго жыцьця. Цэнтральные дзержавы не збіраюцца зачэпляць чэсць або волю расейскаго народу і ня хочуць нічога іншаго, як жыць у згодзі і дружбе са здаволеным суседам.

Пры гэтым Нямеччына зусім не мае думкі мешацца ў новы лад у жыцьці Расеі, або гразіць Расеі ізноў у момэнт нарадзін расейскай волі.

**Расейскае ваеннае апавешчэньне з 11 дня гэтаго месяца мыліцца, называючы вялікай ваеннай акціей агульнаго значэньня ваенную опэрацію нямецкіх войск, загаданую мейсцовай агранічэнай тактычнай патрэбай.**

Калі расейскі народ ешчэ праліваe сваю кроў і мучыцца, то вінавата ў гэтым не Нямеччына. Віна ляжыць на тым, каму ёсць карысць далей ваеваць. Дзе жаданьне міра расейскаго народу, высказаннае ў заяві 10 красавіка, спатыкаецца з найвялікшым адпорам? У сваіх уласных саюзьнікоў. Англія, Франція і Італія са сваімі саюзьнікамі, адкідаючы прэдложэны цэнтральнымі дзержавамі мір, зусім адкрыта заявілі, што яны зробяць згоду толькі с тэй умовай, калі ў Нямеччыны будуць адабраны вялікіе абшары прыналежачых ей зямель, калі Аўстро-Вэнгрыя будзе разгромлена, калі Турэччына будзе выкінута з Эўропы, а Малая Азія—падзелена на часьці.

Расейскі народ хочэ—і ніхто нічога іншаго не спадзяецца — аставацца верным сваім саюзьнікам. Але няхай расейскі народ ведае, што яго сыны і далей павінны будуць ліць сваю кроў і біцца толькі затым, што таго хочуць іх саюзьнікі, дабіваючыся гэтак спаўненьня сваіх завоевацельных і аннэксыйных пляноў. Гэта — прычына таго, што Расея прымушэна цярпець голад і мукі замест карыстаць з новадабытай волі і у згодным жыцьці с суседзямі сваімі ўзяцца за працу дзеля поступу і спаўненьня ідэалоў чэлавечэства».

---

Венскае тэлеграфнае агенцтво публікуе падобную заяву.

---

ШТОКГОЛЬМ. «Politiken» друкуе заяву прыбыўшых са Швэйцарыі расейскіх рэволюцыонероў, у каторай гаворыцца, што Англія зрабіла ўсё, каб недапусьціць палітычнай амнэстіі ў Расеі. Англіцкае правіцельство задзержывае заграніцай расейскіх рэволюцыонероў, якіе працуюць дзеля міра. Матэр'ялы аб гэтым будуць апублікованы ў рэволюціі ўсіх расейскіх соцыялістычных партій.

ШТОКГОЛЬМ. Сягоньня прыехалі у Штокгольм некалькі расейскіх рэволюцыонероў, каторые аддалі швэдзкай млада-соцыялістычнай партіі гэткі дакумэнт:

«Англія, каторая сэрдэчна вітала расейскую рэволюцію, зрабіла ўраз-жэ пасьля гэтаго спробу зьніштожыць яе рэзультаты, пратэставала проці амнэстіі і адмовілася даць вольны праезд рэволюцыонерам, настроеным міралюбна.

**Тады пачаліся перэгаворы з нямецкім урадам. Немцы далі расейскаму поезду право нетыкальнасьці. 9 красавіка 30 расейскіх соцыялістоу — мужчын і жанок, у тым ліку Ленін і Зіновіев, ды некалькі членоу работніцкаго саюза праехалі у Швэцію праз Нямеччыну. У часі падарожы яны не выходзілі з вагонау“.**

ЛЮГАНО. У Органі соцыялістоў «Avanti» вядомы расейскі рэволюцыйны пісьменнік Шчэрбатов здзекуецца над поўнай неасьведомленасьцю расейскіх газэт аб Расеі і пацьверджае, што рэволюція ідзе ўпярод усё выразней і больш староўча сваей дарогай. Саюзьніцкая прэсса галосіць сягоньня с прычыны падарожы расейскіх рэволюцыонероў у Штокгольм, але саюзьнікі скора дажджуцца ешчэ іншых, зусім неспадзеваных навін ад расейскай рэволюцыі.

